# Беларускі сцяг



**Зянон ПАЗЬНЯК**

Давайце пагаворым пра нацыянальны сцяг. Гэта значыць, пра рэчы відавочныя і таемныя, рэальныя і містычныя.

Нацыянальны сцяг — гэта каляровае палатно, як правіла, прастакутнага памеру, якое з'яўляецца сімвалам нацыі. Бываюць людзі, якіх сцяг нічым не ўзрушвае: палатно як палатно. Іншыя — дзеля сцяга ахвяруюць жыццём, адносяцца да яго з піетэтам і з найвялікшай павагай.

Адносіны да сцяга паказваюць на ўзровень нацыянальнай кансалідацыі і нацыянальнай свядомасці народа. І што важна: тут існуе ўзаемаабарачальная сувязь. Народ падтрымлівае сцяг, а сузіранне сцяга — кансалідуе народ.

Успомнім нядаўняе мінулае, як адносіліся да беларускага нацыянальнага сцяга на Беларусі функцыянеры КПСС. Калі ўжо перад канцом Савецкага Саюза камуністы не мелі моцы, яны стараліся ўсімі сіламі прынізіць, зменшыць значэнне сцяга. "Ім бы толькі флажкі", — крычалі яны ў Вярхоўным Савеце на Народны Фронт. Маўляў, ёсць больш важныя рэчы, чым сцяг.

Як толькі з дапамогай расійскага КДБ да ўлады прыйшоў А. Лукашэнка, першае, з чаго ён пачаў, — гэта з ліквідацыі беларускага дзяржаўнага сцяга. Пры гэтым не палічыўся ні з якімі выдаткамі.

У барацьбе за беларускі сцяг цяперашняя рэчаіснасць нарадзіла сапраўдных герояў. Паглядзім на подзвігі няўлоўнага МІРОНА, які ўжо некалькі гадоў вывешвае Бел-Чырвона-Белы сцяг на самых высокіх і недаступных месцах і заўсёды пакідае пры гэтым запіскі патрыятычнага зместу.

Апошні подзвіг Мірона, які ён ажыццявіў на другі дзень Нараджэння Хрыстова 26 снежня мінулага года ў Віцебску, уражвае сваёй смеласцю. Мірон сярод белага дня вывешваў беларускі сцяг над горадам на 110-метровай вышыні (на коміне гарадской цеплацэнтралі). Убраны ў барвовы плашч, гэты рыцар беларускага сцяга працаваў на вышыні, на марозным ветры амаль пяць гадзін, дзёрзка, навідавоку ўсяго горада. Унізе яго ўжо чакала пастка, але Мірон, дзякуючы беларускай кемлівасці, спусціўся з гары і здолеў не патрапіць у рукі ахоўнікаў. Ён зноў няўлоўна знік, не адкрыўшы свой твар.

Я мяркую, што неўзабаве, пасля таго як будзе скінуты ў Беларусі прамаскоўскі рэжым, — урачыстае ўздыманне беларускага сцяга над парламентам і Домам урада пад велічныя гукі беларускага духоўнага гімна будзе даручана герою беларускага сцяга — Мірону, які ў гэты момант адкрые сваё аблічча.

Прыгледзімся да нашага сцяга.

Ён заўсёды відаць здалёку, як самая яркая з'ява ў прасторы, якія б фарбы і аб'ёмы вакол ні былі. Гэта настолькі відавочна, што ўражвае.

Калі глядзець на наш сцяг зблізку і асабліва калі сцягоў шмат і яны развіваюцца пад сонцам, — відовішча вельмі велічнае. З'яўляецца ілюзія, што над сцягамі і ў гушчы сцягоў узнікае канцэнтрацыя святла. Гэтае месца не проста самае светлае ў прасторы; уражанне, што яно вылучае святло. Прытым ілюзія вельмі моцная.

Адразу скажу, што тут няма ніякай містыкі. Тут спрацоўваюць аб'ектыўныя законы ўспрыняцця колераў, іхных прапорцый і камбінацый. У беларускім сцягу ідэальна збалансаваныя белы і чырвоны колеры. Знойдзена мера раўнавагі. Беларускі сцяг візуальна гарманічны, бо чырвонае і белае ўраўнаважаны. Для раўнавагі гэтых колераў патрэбная якраз прапорцыя: адзін да двух.

Як прапорцыя колераў уплывае на гармонію цэласці, можна пераканацца, калі сузіраць сцягі Інданезіі і Польшчы, якія аднолькавыя — бела-чырвоныя (толькі іншы колерны парадак верху і нізу палатна). Тут уражанне несіметрычнай распалавіненасці плошчы, ілюзія дысанансу, бо чырвонага шмат, і гэты колер выглядае цяжкім. У прапорцыі ж 1:2, як у беларускім сцягу, чырвоны колер лёгкі, ён плыве, уецца, палымнее на белым, не цягне на дол, а нібы лунае ў белай прасторы. Тыя ж колеры, але ў розных прапорцыях, выклікаюць розны візуальны і псіхалагічны эфект.

Немалаважны і сутнасны выбар колеру. Самы яркі колер ёсць белы, але ў рэальнасці самым яркім колерам на Зямлі лічыцца жоўты (тут псіхалагічны эфект жоўтага сонца). Тым часам ніякі жоўты сцяг і ніякая камбінацыя жоўтага з белым ці жоўтага з чырвоным не будзе ярчэйшай і святлейшай за беларускі Бел-Чырвона-Белы Сцяг (я ўжо не кажу пра псіхалогію ўспрыняцця). Не дасць лепшага эфекту таксама толькі белы ці тым больш — толькі чырвоны сцяг.

Мастацтвазнаўцы і мастакі-каларысты ведаюць, што ёсць колеры, якія сумяшчаюцца і гарманізуюцца, і колеры, якія не сумяшчаюцца і не гарманізуюцца. Напрыклад, зялёны і чырвоны колеры — несумяшчальныя, згарманізаваць іх разам практычна немагчыма. Тым часам з белым можна сумясціць і згарманізаваць любы колер.

На беларускім сцягу згарманізаваны самы "гарачы" колер чырвонага, ці, як яшчэ кажуць, "цёплага" краю спектра. Кожны колер, які бачны ў прыродзе, нясе аб'ектыўную псіхалагічную нагрузку і фактычна аднолькава псіхалагічна ўспрымаецца большасцю людзей. Гэтая ж аб'ектыўная аснова псіхалагічнага ўспрыняцця выяўляецца і ў камбінацыі колераў, якія мастак сумяшчае па законах эстэтыкі.

Гарманізацыя белага з чырвоным у прапорцыі 2:1 аблягчае цяжкую псіхалагічную актыўнасць чырвані і на балансе кантрасту актывізуе (высвятляе) белы фон, ад чаго ўзнікае ілюзія святла і палымнення ўсёй бел-чырвона-белай карціны.

Калі прааналізаваць ўсё да канца, то прыходзім да высновы, што **Бел-Чырвона-Белы Сцяг ёсць ідэальным візуальным выяўленнем гармоніі самых актыўных колераў — чырвонага і белага — і найвыразнейшым выяўленнем псіхалагічнага вобразу чыстасці і радаснага ўздыму. Гэта оптымум ідэі радасці і святла і оптымум візуальнай яркасці.**

Далей я буду гаварыць пра рэчы, набліжаныя да містыкі, над якімі нельга не задумацца.

Беларускі Бел-Чырвона-Белы Сцяг вядомы яшчэ з сярэднявечча. У XV і XVI стагоддзях ён ужо лунае на піках беларускіх рыцараў.

Канцэпцыя гармоніі белага з чырвоным вядома на Беларусі з глыбокай старажытнасці, яшчэ з дапісьменных часоў, і матэрыялізавалася ў адзенні. Сутнасць яе ў тым, што дзейнікамі выступалі толькі чырвоны і белы колеры, і спалучэнне іх не перакрочвала прапорцыі 2:1. Чырвоны колер быў акцэнтам, але не дамінаваў удзельна (гэта значыць, на плошчы запаўнення). Нашы старажытныя продкі адчувалі законы гармоніі.

У хрысціянскай старажытнасці склалася традыцыя сімвалізацыі прыходу Месіі. Гэта чырвоны крыж ці чырвоная паласа на белым фоне. Тут сімвалізацыя дарогі Боскага Духу, духоўнага шляху на чыстасці стварэння. Тут чырвоны, гарачы шлях Хрыстовай Веры і Любові праз вечнасць светабудовы да вечнага Бога.

У сярэднявеччы шмат дзе на карцінах мастакоў можна было бачыць выяву Ісуса Хрыста з Бел-Чырвона-Белай харугвай крыжа ці з Бел-Чырвона-Белым Сцягам у руцэ. Бел-Чырвона-Белы Сцяг з чырвоным крыжам ці чырвонай паласой на карцінах сярэднявечча выступае як атрыбут Езуса, як яго Боскі знак і Боскі Сцяг (П'ера дэла Франчэска, Тржэбоньскі майстар, ангельскія мініяцюры XII—XIII стагоддзяў і інш.).

З першага погляду відаць, што беларускі сцяг вельмі просты. Шмат якія дзяржаўныя сцягі на свеце ў агульным супадаюць, паўтараюцца ў вобразе ці мадыфікуюць адзін аднаго. Нідзе і блізка не паўтараецца толькі беларускі сцяг. Няма нават мадыфікацый. Некаторых беларусаў гэта здумляе. А можа, невыпадкова, што нацыя, якая стагоддзямі ўваскрасае ў пакутах і муках, мае сцяг Ісуса Хрыста?

Які сэнс вынікае з гісторыі нашага сцяга?

Я задаваў гэтае пытанне беларусам. Кожны нешта тлумачыў, і ніхто не адмаўляў эзатэрычнага зместу. Адзін беларускі святар у Амерыцы сказаў мне: "Беларускі народ ёсць выбраным народам на Другое Прышэсце. Толькі пра гэта ніхто не будзе ведаць".

Такі вось апокрыф. Але калі так, то пра гэта не мусіў бы ведаць таксама і святар.

Відаць, нічога не парадзім мы з містыкай сцяга. Але неабходна радзіць з рэчаіснасцю. А рэчаіснасць такая: **пакуль ёсць, лунае і жыве наш беларускі сцяг — жыве і Беларусь. Шануйма ж яго і ўздымайма высока. Ён, найпрыгажэйшы на свеце, ёсць увасабленне нашай краіны, нашай народнай моцы і нашай веры. Ён сімвал нашай беларускай народнай вечнасці.**



Фота IREX/ProMedia.

## Дайджест

### НТВ ждет вторжения



Телекомпания НТВ перешла на круглосуточное вещание, к ее охране привлекаются депутаты Государственной думы. Такое решение было принято на общем собрании сотрудников компании, которое завершилось поздно вечером во вторник. Журналисты опасаются силового исполнения решения последнего собрания акционеров.

**Газета.ru**

### Израиль нанес ракетные удары по сектору Газа

Во вторник израильские вертолеты нанесли ракетные удары по палестинским объектам в секторе Газа. Новый массированный обстрел стал ответом Израиля на ранение десятимесячной еврейской девочки и ее матери. Удары были нанесены по военным и гражданским объектам палестинцев, в том числе штабам элитного подразделения Force 17, и по Управлению военной разведки палестинской автономии.

### Парламентские выборы в Англии переносят на месяц из-за ящура

Премьер-министр Великобритании Тони Блэр подтвердил, что парламентские выборы состоятся 7 июня. Ранее выборы были назначены на 3 мая, однако из-за эпизоотии ящура Блэр счел необходимым на месяц их перенести. Между тем лидер Консервативной партии Уильям Хаг призвал не назначать новой даты выборов до того, как правительство "сможет обуздать кризис ящура".

### Белорусского арбитра ФИФА обвинили в крупном хищении

Белорусскому футбольному судье, арбитру ФИФА Геннадию Якубовскому предъявлено обвинение в сокрытии доходов и хищении средств в особо крупных размерах. По данным следствия, в марте 1997 года из витебского футбольного клуба "Локомотив" в саратовский клуб "Сокол ПЖД" перешел футболист Михаил Пацко, за которого "Локомотив" должен был получить 23 тысячи долларов. Впоследствии эти деньги оказались на банковском счете Якубовского.

**Lenta.ru**

### В США идут переговоры по карабахскому урегулированию

В Ки-Уэсте (штат Флорида, США) идут переговоры по урегулированию армяно-азербайджанского конфликта вокруг Нагорного Карабаха при участии госсекретаря США Колина Пауэлла. В них, сообщает агентство ЭФЭ, принимают участие президенты Армении и Азербайджана Роберт Кочарян и Гейдар Алиев, а также представители России и Франции, входящие вместе с США в Минскую группу ОБСЕ, занимающуюся карабахским урегулированием.

США надеются, что переговоры позволят выработать план урегулирования этого затянувшегося кризиса. "Мы будем располагать несколькими днями, когда практически без перерыва сможем работать с двумя президентами — вместе и по отдельности", — заявил журналистам на условиях анонимности высокопоставленный американский дипломат.

### Солана убежден, что Милошевич предстанет перед Гаагским трибуналом

Верховный представитель Европейского Союза по внешней политике и политике безопасности Хавьер Солана признал во вторник "чрезвычайно позитивными" действия Белграда против экс-президента Югославии Слободана Милошевича. Европейский политик вновь подтвердил убежденность в том, что "рано или поздно" бывший лидер предстанет перед Международным трибуналом по бывшей Югославии (МТБЮ).

В интервью одной из испанских радиостанций Х.Солана подчеркнул, что "сами власти Белграда желают, чтобы (Милошевич — ИФ) предстал пред судом и в своей стране, что послужило бы примером и для граждан бывшей Югославии".

**Интерфакс.**

## Лондонский калейдоскоп

### Кража в разведцентре

Шифровальную машину, которая использовалась нацистами во время второй мировой войны, получил по почте известный телеведущий Би-Би-Си Джереми Паксман. Этот "подарок" под названием "Энигма" был украден в прошлом году из музея британского разведцентра Блетчи-парк близ города Милтон Кейнз. "Энигму" выставили в музее как напоминание о выдающемся достижении британских криптографов, взломавших в военные годы ее шифр. В результате перехватывались переговоры капитанов гитлеровских подводных лодок со своими штабами, благодаря чему западные союзники выиграли битву за контроль над акваторией Атлантического океана. В наши дни эти исторические события стали сюжетами для многочисленных романов и художественных фильмов.

Исследовательский центр Блетчи-парк и сегодня работает в области криптографии и компьютерной технологии по заказам британских разведслужб. Для привлечения новых молодых талантов руководители центра и организовали "неделю открытых дверей" с посещением музея. Вот тогда-то из стеклянного шкафа исчезла "Энигма", напоминающая внешне антикварную пишущую машинку.

Вероятно, продать "Энигму" вору не удалось. Поэтому он позвонил в разведцентр и заявил, что купил машинку, "не зная, что она ворованная", и предложил вернуть... за вознаграждение.

Блетчи-парк согласился на выплату вознаграждения. Однако неизвестный, решив, очевидно, не вести рискованный бизнес с британскими разведчиками, больше не вышел на связь. В конце концов "Энигма" пришла по почте Джереми Паксману, но без трех шифровальных дисков. Работать без них "Энигма" не может.

### Исчезла шпионская фирма

**Британской фирмы "Альтернатив фьючерс", с сотрудниками которой поддерживал контакты обвиняемый в шпионаже россиянин Игорь Сутягин, больше не существует.**

"Альтернатив фьючерс" находится в центре внимания судебного процесса по обвинению эксперта в области контроля над вооружениями престижного Московского института США и Канады Игоря Сутягина в шпионаже. Его обвиняют в передаче государственных секретов о российском атомном подводном флоте.

Согласно показаниям Сутягина, он получил 14 тысяч фунтов стерлингов от "Альтернатив фьючерс" якобы за оказание консультационных услуг после встречи с ее сотрудниками в 1998 году на конференции в Бирмингеме. Позднее он периодически встречался с ними в столицах разных европейских государств.

Как пишет газета "Дейли телеграф", по мнению ФСБ России, "Альтернатив фьючерс", офис которой находится в Лондоне на Лиденхолл стрит, была "подставной структурой разведки одной из стран НАТО". Как сообщает газета, "фирма закрылась в 1999 году после ареста Игоря Сутягина, которого сейчас в России судят по обвинению в государственной измене". Кроме того, ФСБ назвала и имена двух сотрудников этой кампании — Надю Локк и Шона Кидд. "Дейли телеграф" отмечает схожесть в характере "поведения" исчезнувшей фирмы и использовавшейся для разведопераций МИ-6 подставной компании "Труфакс", которую возглавлял бывший сотрудник этой британской спецслужбы Ричард Томлинсон. О существовании "Труфакса" он рассказал в опубликованных недавно в России мемуарах, пишет газета.

### Порномодель — двухмесячный ребенок

"Деятельность" шайки педофилов, промышлявших в Интернете, пресекла недавно лондонская полиция. За бурную деятельность на рынке детских порнографических картинок (где в качестве моделей использовались даже двухмесячные младенцы) главный организатор, 30-летний безработный Дэвид Хайнс, получил три года. А его подельники — еще меньше. Это при том, что главный "герой" порнозатеи в Интернете не раскаивается в содеянном, считает свое "увлечение младенцами" нормальным и обещает вернуться к педофильскому порнопроекту по возвращении из мест не столь отдаленных. В отличие от судей, реакция людей, присутствовавших на процессе, была агрессивной. В итоге Интернет-порнографа пришлось охранять полицией от всенародного гнева и по дороге в суд, и на обратном пути.

### А за козла ответишь

Вы можете себе представить, чтобы сотрудники КГБ подали в суд на коллег из милиции? На самом деле даже вопрос звучит как-то безумно. А вот в Лондоне полиция судится со Скотланд Ярдом. Шесть офицеров подали иск о защите чести и достоинства на собственное руководство!

Дело в том, что их начальники публично признали якобы имеющие место расистские настроения среди полицейских. А шесть офицеров из Метрополитен-полис считают, что это конъюнктурная клевета. Они считают, что никакого расизма в полиции нет, а высшие чины просто напуганы левацки настроенной общественностью и пасуют перед откровенной клеветой на себя и своих подчиненных. С их точки зрения, из полиции просто делают козла отпущения, а о расизме начинают кричать те деятели, у которых нет никаких иных аргументов и поводов прицепиться к стражам порядка.

Да, Лондон — это не Минск. Попробовал бы кто из МВД сделать козла отпущения, сразу бы, "не отходя от кассы", за козла бы и ответил...

### Что общего между балетом и коррупцией?

Ох уж этот "загнивающий капитализм". Ну все тут не так как у людей, в смысле нас с вами, жителей постсоветского пространства. И проблемы до обидного смешные. То ли дело у нас — Пал Палыча, госсекретаря содружества России с Беларусью, американцы взяли и в тюрьму посадили. Тем самым оскорбили честь и достоинство двух братских госаппаратов. И дело не в том, что вместо нас с коррупцией в наших государствах борются швейцарцы с американцами. Проблема, оказывается, в защите чести и достоинства содружества независимых государств в лице Бородина. Черт его знает, а может, в ответ пригласить экс-вице-президента США Эла Гора в Минск да и обвинить его в "порочной связи" с Черномырдиным?

Посадили бы его на 30 суток, согласно декрету Александра Григорьевича, в камеру. Там он уже через неделю соловьем бы запел...

Впрочем, что это я чужих проблем ищу решение, лезу, так сказать, поперед "батьки" в пекло, отвлекаясь от основной темы повествования. Так вот, пока содружество России с Беларусью ломает голову насчет Бородина, у Великобритании тоже обозначилась серьезная проблема — полиция не выполнила план по разоблачению коррупции. Шесть миллионов фунтов на операцию "Ланцет" потратили, а результат выдали на три пенса!

— Увы, — отвечает в докладе правительству полицейское руководство, — коррупция у нас практически равна нулю. А те коррупционеры, что есть, давно стали закладками в книге под названием "Уголовный кодекс". Оказывается, вот почему "капиталисты" стали активно наших (украинских, российских, белорусских) коррупционеров ловить — потому, что своих очень мало и даже практически нет. Вот они на наших-то и отыгрываются...

Не знаю, что думает по поводу итогов операции "Ланцет" Тони Блэр, а нам, гражданам Содружества, приятно осознавать, что хоть в чем-то Англия отстает от Украины и России с Беларусью. Теперь не только в области балета мы впереди планеты всей!

**Евгений СУЛЫГА,**
**собственный корреспондент "Народной воли" в Великобритании.**

## Бывает и такое...

### В плену у собственной кровати

Жительница Нюрнберга (юг Германии) была вынуждена провести целый час в плену у собственной кровати. Женщина привычно убирала постель, когда ее рука оказалась зажатой между каркасом и одной из петель кровати.

Попытки выбраться не привели ни к каким результатам, и женщине пришлось звать на помощь.

Больше чем через полчаса крики женщины услышали соседи, которые вызвали полицию, успешно освободившую "кроватную пленницу", передает агентство ЭФЭ.

### За то, что попала помидором в британского премьера...

К году тюремного заключения условно и штрафу в размере 50 фунтов стерлингов приговорена молодая женщина, которая в прошлом году попала помидором в премьер-министра Великобритании Тони Блэра.

Она принимала участие в акции протеста против британской политики в отношении Ирака. Манифестация была приурочена к приезду в город Бристоль главы правительства. Другие манифестанты, которые тоже швыряли в него овощи и фрукты, не подверглись преследованию, так как не попали в Т.Блэра.

Жительница Бристоля 26-летняя Линн Мэри Коулз признала на процессе, что бросила злополучный помидор, но заявила, что не хотела нанести вреда премьер-министру. Единственным последствием этой акции стало пятно на пиджаке главы правительства.

## Тэма дня

# Сакавіцкі сверб,

## або Ці мае будучыню эканамічная інтэграцыя Беларусі, Расіі і Украіны?

У сакавіку, як вядома, моцна крычаць каты. А ў апошнія гады з надыходам вясны пачынаецца сверб і ў беларуска-расійскіх інтэгратараў. Зусім нядаўна яны разляцеліся з кіеўскай канферэнцыі, на якой абмяркоўвалі пытанне: як уцягнуць Украіну ў саюз Беларусі і Расіі? А ў апошнія дні сакавіка ўжо ладзілі сваю шумлівую гаварыльню ў Мінску.

Многія довады інтэгратараў настолькі смешныя і прымітыўныя, што аб іх і няёмка гаварыць. Але паколькі яны тыражуюцца з кашачым крыкам, дык і абысці іх нельга. Яшчэ напярэдадні мінскай канферэнцыі ў прэзідэнцкай газеце адзін з ідэолагаў інтэграцыі народны артыст Расіі Мікалай Губенка выдаў такі аргумент. На пытанне, ці падтрымліваеце ідэю стварэння саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі, ён з пафасам зазначыў: "Абсолютно... Лучше любить, чем ненавидеть друг друга... Ну, согласитесь: вы — молодой человек, я — пожилой, вы — белорус, я — по паспорту украинец, по гражданству — русский. Зачем нам враждовать?".

Вы зразумелі, пра што ён? Выходзіць, каб не "враждовать", трэба далучацца да Расіі. Чаму нельга жыць у дружбе, застаючыся суседнімі суверэннымі дзяржавамі? Проста глупства дый годзе.

На жаль, хапала падобнага і на "круглым стале" "Праблемы эканамічнай інтэграцыі Беларусі, Расіі і Украіны", які ладзіўся ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. А выступалі навукоўцы дзвюх краін, адказныя работнікі органаў дзяржаўнай улады і кіравання.

Раз за разам гучалі заклікі: што нам, беларусам, трэба зрабіць, каб увайсці ў саюз з Расіяй? Выходзіць, вось такая галоўная наша праблема. У нармальных краінах звычайна непакояцца аб іншым: што трэба зрабіць, каб людзям жылося лепей, каб вырашыць праблемы, якія стаяць перад грамадствам? А ў нас — як увайсці ў склад суседняй дзяржавы, у якой замярзаюць людзі і страляюць сярод белага дня? Нават каты крычаць пра сваё, а не чужое. А тут наадварот.

Часта гучалі ўжо набіўшыя аскоміну заклікі аб тым, што неабходна ствараць фінансава-прамысловыя групы, сумесна інтэгрыравацца ў сусветную эканоміку... Ну створым мы сумесную аўтамабільна-прамысловую групу ці канцэрн, і што? Каб выпускаць канкурэнтаздольныя аўтамабілі, неабходна ўкласці ў тую групу вялізныя сродкі, перадавыя тэхналогіі. Але ні першага, ні другога ні ў Беларусі, ні ў Расіі няма. Дык навошта балбатаць? Куды лепей стварыць такую групу сумесна з вытворцамі Германіі, якія маюць і грошы, і сучасныя тэхналогіі. Выпуск прыгожага аўтобуса ў Мінску сумесна з немцамі яскрава пераконвае ў перавагах інтэграцыі з еўрапейскімі партнёрамі. І што цікава? Ужо больш за пяць гадоў адказныя асобы Беларусі і Расіі балбочуць пра гэтыя прамысловыя групы, а выніку — аніякага. А з немцамі — ніякай балбатні, затое які цудоўны аўтобус ужо даўно бегае па беларускіх дарогах.

Як дасягненне нашай інтэграцыі з Расіяй называлася тое, што нарэшце з'явіўся сумесны бюджэт. А на што трацяцца яго сродкі? Выступоўца з Расійскага інстытута міжнародных эканамічных і палітычных даследаванняў А.Шуруговіч гаварыў, што гэта дало магчымасць пачаць ствараць структуры беларуска-расійскага саюза, такія, як выканкам, парламенцкі сход, ды ўмацаваць заходнюю мяжу саюза... Так і хочацца ўсклікнуць: "Ах, якое вялікае шчасце для беларусаў, што яшчэ вырасла колькасць начальнікаў, што плот паміж намі і Польшчай стаў яшчэ больш высокім і шчыльным!".

Прыемна, што на "круглым стале" прагучала нямала разумных думак і талковых довадаў. Першы намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларусі П.Калаур адкрыта гаварыў аб тым, што страта грашовага суверэнітэту для Беларусі акажацца больш хваравітай, чым для Расіі. Аб магчымай страце суверэнітэту Рэспублікай Беларусь гаварыў і намеснік дырэктара расійскага Інстытута міжнародных эканамічных і палітычных даследаванняў Р.Грынберг. Сваю думку ён выклаў у такой вобразнай форме: "Не бывае так, каб усе жанчыны былі замужнімі, а ўсе мужчыны — халасцякамі". Дзеля інтэграцыі патрэбен рэгулюючы орган, якому неабходна даць частку суверэнітэту.

На думку вядомага беларускага эканаміста А.Лучанка, варта гаварыць не аб інтэграцыі з Расіяй, бо яна нашых праблем не вырашыць, а аб тым, як прыцягнуць у Беларусь расійскія інвестыцыі. Асноўныя фонды краіны моцна зношаны, патрэбна іх тэрміновае абнаўленне. Ён звярнуў увагу і на такую важную акалічнасць. Гаварыць, што нібыта эканоміка Беларусі дзякуючы саюзу з Расіяй выходзіць з крызісу, не карэктна. Наадварот, сальда гандлёвага балансу з Расіяй вельмі адмоўнае. Беларускія тавары выцясняюцца не толькі з расійскага рынку, але і са свайго, беларускага. Расійскае піва, напрыклад, прыйшло на Беларусь і ціснe нашых вытворцаў. Чым больш мы інтэгрыруемся з Расіяй, тым мацней іх тавары выцясняюць нашыя. Хутка могуць спыніцца многія беларускія вытворчасці, а іх рабочыя апынуцца без працы. Яшчэ можна спыніць такую тэндэнцыю, пакуль дзейнічае беларускі рубель. Калі ж прыйдзе расійскі, Беларусь згубіць апошні рычаг абароны свайго рынку.

Расія думае пра сябе, а не пра Беларусь. І правільна робіць. Яна ўсё больш раскручвае свой гандаль з заходнімі, высокаразвітымі краінамі. Доктар эканамічных навук з расійскага Інстытута народнагаспадарчага прагназавання Ф.Клоцваг прывёў такія лічбы. Летась 83% знешнегандлёвага абароту Расіі прыпадала на далёкае замежжа і толькі 17% — на краіны СНД. Чаму так здарылася? Таму, што Расія ўпісваецца ў сусветны рынак і гуляе па яго прынцыпах. Значыць, яна будзе і надалей выцясняць ужо няякасныя беларускія тавары паўсюдна, дзе гэта можна, і прапіхваць свае, прапускаць да сябе вырабы вядучых сусветных фірм.

Дзіўна і сумна, што нават высокапастаўленыя інтэгратары не ў стане зразумець, нават убачыць тыя эканамічныя тэндэнцыі, якія пануюць у свеце, і настойліва наступаюць на нашу прастору. Яны больш кіруюцца эмоцыямі, настальгія па мінулым настолькі засціць ім вочы, што ўжо, напэўна, нічога не бачаць. Выдатна аб гэтым сказаў адзін выступоўца: "Хто не сумуе аб развале СССР, у таго няма сэрца, а хто стаіць за аднаўленне Савецкага Саюза — у таго няма розуму". Гэта праўда.

Рынак не спыніць, ад яго не схавацца. Нават Кітай перад ім не ўстаяў. Дык што гаварыць пра нас. Тым больш, што набываюць разбег працэсы глабалізацыі. Вядома, нясуць яны не толькі вясёлку, але і гром. Сярод эканамістаў свету ходзіць такі выраз: "Усе краіны цяпер падпільноўваюць дзве бяды. Адна — трапіць у кіпцюры транснацыянальных карпарацый. Другая — не трапіць у іх".

Вось яна, галоўная сусветная праблема. А яны, нібы тыя сакавіцкія каты, крычаць аб нейкай сваёй інтэграцыйнай свярбачцы.

**Алесь ДРАБЧУК.**

